№ 30. Ausgabe B.

# ГОМАН

№ 30 (122). Год II. Вільня, 13 красавіка 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

**ЛОНДОН.** „Times“ даносіць, што пецярбурскі камітэт работнікоў і салдатоў організаваў камісію дзеля міра і безпаерэдных перэгавораў аб гэтым з ворагамі. З гэтай мэтай у Штокгольм послана дэпутація.

**ВЕНА.** Галава аўстрыяцкіх соцыялістоў, Віктор Адлер, выехаў у Штокгольм.

**БЭРЛІН.** Галава нямецкай соц.-дэм. Шэйдэманн знаходзіцца цяпер у Штокгольмі.

**ШТОКГОЛЬМ.** Галава швэдзкіх соцыялістоў, Брандінг, прыбыў у Пецярбург і вёў перэгаворы с кіраўнікамі камітэту работнікоў и салдатоў.

ПЕЦЯРБУРГ. 10.IV. П.Т.А. апавешчае:

«Тымчасовы урад разгледзіў ваеннае палажэньне Расейскай дзержавы і дзеля таго, каб споўніць сваю павіннасць перад сваей стараной, пастанавіў адкрыта і проста сказаць народу ўсю праўду. Скінутае цяпер правіцельство аставіло зашчыту старонкі ў вялікім непарадку. Праступнай неуважлівасьцю і неудачнымі опэраціямі яно ўвяло замешаньне ў нашы фінансы, у справу перавозак і народнага страваваньня, ды у здаволіваньне арміі амуніціей. Яно устрасло ўсю нашу экономічную організацію. Тымчасовы урад с паддзержкай усяго народу напружыць усе свае сілы, каб вызваліцца ад благіх рэзультатоў спадчыны па старым ладзе. Але час ня жджэ. Багата крыві нялічэнага чысла сыноў нашай Бацькаўшчыны пралілося за гэтые паўтрэця году вайны,—і ўсёж-такі наша старонка стаіць супроць усё ешчэ магутных ворагоў, каторые занімаюць цэлые краі нашай дзержавы і грозяць нам у момэнт нарадзін расейскай волі. Зашчыта нашай папраўдзі нацыональнай Бацькаўшчыны за ўселякую цану і вызваленьне старонкі ад ворагоў—гэта глаўная і найважнейшая задача нашых ваякоў. Тымчасовы урад аддае на суд народу—ў цеснай еднасьці з нашымі саюзьнікамі—аканчацельную развязку ўсіх пытаньнёў сусьветнай вайны і закончэньне яе; аднак, ён лічыць сваей павіннасьцю ўжо цяпер заявіць, што **вольная Расея не мае мэты панаваць над другімі народамі, браць у іх нацыональнае іх жыцьцё і гвалтам забіраць чужую зямлю, і што тымчасовы урад хочэ дайсьці доўгага міра на аснові права народаў самым пастанаўляць аб сваей долі.** Але расейскі народ не дапусьціць, каб яго Бацькаўшчына выйшла з вялікай вайны прыніжэная і патрэсеная у сваіх асновах. Гэтые прынцыпы астануцца асновай заграніччай палітыкі тымчасоваго ураду, каторы без памылкі выпаўняе волю народу і бароніць правы нашай Бацькаўшчыны, спаўняючы павіннасьці, прынятые перад нашымі саюзьнікамі. Бацькаўшчына—ў небаспечнасьці! Трэба напружыць усе сілы, каб выратаваць яе! Ніхай гадзіна цяжкіх спроб знойдзе ўсю старонку даволі сільнай, каб забаснечыць здабытую волю і аддацца неутамімай працы на карысць вольнай Расеі».

ПЕЦЯРБУРГ. Спаўніцельная камісія Камітэту работнікоў і салдатоў высказалася проці ўсіх жаданьнёў патрасьці організацію арміі і прыняла гэткую рэзолюцію:

„Тымчасовы урад павінен заявіць перад усім сьветам, што Расея толькі дзеля сваей зашчыты будзе ваеваць датуль, пакуль Нямеччына і Аўстрыя не скажуць, што яны адрэкаюцца ад уселякіх заваеваньнёў і гатовы вясьці мірные перэгаворы, не жадаючы тэрыторыі і контрыбуції“.

АМСТЭРДАМ. Лондонскіе газэты даносяць, што ў Петрапаўлаўскай крэпасьці сядзіць 35 быўшых міністроў, у тым ліку і абяўлены забітым Штырмэр. Найбольш спакойны—кн. Голіцын, каторы кажэ, што ён заняў мейсцо прэдседацеля міністроў толькі баючыся царскаго гневу і што цяпер ён зусім спагадае рэволюцыйнаму руху.

ПЕЦЯРБУРГ. Газэта камітэту салдатоў і работнікоў пішэ, што камітэт ня хочэ зменшаць павагі тымчасоваго ураду, але да сазыву устаноўчаго сэйму тымчасовы урад павінен лічыцца з немінучым рэволюцыйным кантролем.

БЭРН. Расейскі мужыцкі саюз высказаў сваю веру тымчасоваму ураду і заявіў, што Расея павінна быць рэспублікай. Спадковые і манастырскіе землі трэба адабраць, і ў Расеі павінна быць заведзена прымусовая навука у школах.

БУЭНОС-АЙРЭС. Офіцыальна апавешчаецца, што Аргентынскае правіцельство паддзержывае палітыку Злучэных Штатоў у адношэньні да Нямеччыны.

ГААГА. Прэзыдэнт Гватэмалі аб'явіў стан асады. Амэрыканскіе урадовые кругі в гэтай прычыны думаюць, што Гватэмаля скора прылучыцца да вайны проці Нямеччыны.

ВАШЫНГТОН. У палаці дэпутатоў упорна працівяцца проці завядзеньня прымусовай ваеннай службы. Мо' пройдзе компроміс, што ваенная павіннасць будзе устаноўлена толькі на гэту вайну.

---

## Супольная дорога.

Старая гэта і добра ўсім вядомая праўда, што беларускі і літоўскі, жыдоўскі і польскі работнік бліжэй між сабой, чым беларускі работнік да беларускаго пана-землеўласьніка, ці жыдоўскі—да жыда капіталіста, ці польскі—да свайго паляка фабрыканта і т. п. Людзі працы, каторые маюць адно меньне: пару крэпкіх рук да работы, разумеюць, што ўсіх еднае адзін супольны інтэрэс: змаганьне с пануючымі над імі экономічна клясамі. І калі на аднэй зямлі жыве некольки нацыональнасьцей, калі між імі на нацыональным або рэлігійным грунці йдзе змаганьне, дык першые працягіваюць сабе ўзаемна руку элемэнты работніцкіе,— ўсё роўна, ці яны працуюць пры варштаці ў месьці, ці на ральлі—такім жэ варштаці—ў вёсцы.

На гэтым грунці ў нашым Краю заўсёды панавала згода між элемэнтамі шчыра дэмократычнымі, хоць-бы яны рознымі мовамі гаварылі. Даволі прыпомніць не так ужо даўные часы расейскай рэволюції 1905 году, калі і работнікі, і селяне ішлі дружна ўпярод супроць царскаго правіцельства, і ніхто не пытаўся у другога: а хто ты? якая твая гутарка? якой ты націі і веры?

С таго часу прайшло дванаццаць гадоў. Пасьля разгрому рэволюції на першы плян у грамадзкім жыцьці павысоўваліся ізноў тые буржуазные элемэнты, каторы былі счэзьлі негдзе, калі падняліся рэволюцыйнай хваляй народные грамады. І вось на нашай зямлі мы бачым страшэнны узрост нацыоналізму, бачым, як развівалася і абнімала нават «нізы» народу нейкая дзікая, ні на чым не аснованая ненавісць да людзей другой націі. Даволі прыпомніць хаця-бы такіе ганебные рэчы, як бітвы па касьцёлах с прычыны таго, што кожная нація хацела маліцца Богу ў роднай мове сваей....

Цяжкі грэх прынялі на душу тые, хто прыкладаў руку да гэнай ганебнай работы, і можэм толькі цешыцца, што значная часць гэных сяўцоў нацыональнай нязгоды ўцякла з нашаго Краю. Ды ўцяклі ня ўсе: аднадумцы іх і далей вялі і вядуць іх паганую работу. І ў момэнт, калі перад нашым Краем адкрываецца дарога да новай долі, мы бачым на нашай зямлі агульны развал грамадзянства і грамадзкай думкі.

Але, ня глядзячы ні на якіе намовы, ня глядзячы на тое, што яд нацыоналізму дайшоў і да часьці нашых работнікоў, — як рабочая кляса ў сваім цэлым, так і нашае селянство захавало ў сваей сьведомасьці тую старую праўду, што працавітая бедната бяз розніцы націі і веры становіць адну дружную сям'ю, што на цэлым абшары Беларусі і Літвы яна мае тые-ж самые інтэрэсы і тые-ж патрэбы. І згэтуль — з «нізоў» народных — ідзе цяпер ізноў кліч да еднасьці, да згуртаваньня ўсіх творчых сіл краёвай дэмократії перад незвычайна вялікімі задачамі найбліжэйшай будучыны. Дэмократычные элемэнты разумеюць адно: калі яны ня будуць ісьці разам, калі не з'еднаюцца ў супольнай працы для супольнай Бацькаўшчыны, дык тые, хто над імі панаваў дагэтуль, шыбка здалеюць захапіць у свае рукі кіраўніцтво жыцьцём нашай старонкі і будуць далей дзержаць у экономічнай і грамадзкай залежнасьці як нашаго хлебаробагаротніка, так і местоваго работніка, ці то беларус або літвін, паляк або жыд.

*І. Мелешка.*

---

## Вячорные мысьлі.

Кожный, хто знаў гасударственую організацію Расеі з надта невысокай організаціей яе арміі; кожны, хто відзеў зладзействы і хабары ў інтэндантстве і на чыгунках; кожны, хто бачыў самаволю паліціі і разбойніцкую організацію тылоў арміі, гаспадарку на фабрыках і ў капальнях,—той ніколі не чэкаў і ня верыў, каб Расея с такой організаціей магла бы выіграць вайну. Кожны з дальназоркіх палітыкоў спадзеваўся, што гэтая вайна давядзе ў Расеі да перэвароту, ды так яно і сталося: узнялася рэволюція, царскі урад с царом праваліўся, настало новае дэмократычнае правіцельство.

Але раптоўная змена аднаго ураду на другі ня ёсць ешчэ зменай унутрэннаго ладу, чы лепей сказаўшы «унутрэнаго безладзьдзя». Вядома, што ўнутрэный лад можна правясьці ў жыцьцё

«Торг.-Пром. Газ.» жаліцца на безупынные разрухі між селянамі і неахвоту селян выхадзіць на веснавые работы.

Наагул, пануе пераконаньне, што вайна ўвайшла у станоўчы фазіс, і трэба ждаць скорага канца яе. Мір не павінен ні аднэй ні другой старане даць дабычу, а толькі забаспечыць правы малых націй.

ПЕЦЯРБУРГ. Міністэр судоў Керэнскій оказаў на агульным сабраньні камітэту работнікоў і салдатоў прамову, гаворачы між іншым:

„Я не пакіну свайго мейсца, пакуль не будзе забаспечэно, што новы дэмократычны лад у Расеі будзе рэспубліканскі“.

Правіцельство мае апублікаваць заяву, што Расея адмаўляецца ад уселякіх тэрытор'яльных захватоў.

АМСТЭРДАМ. Камітэт работнікоў і салдатоў зажадаў, каб адзін з яго прэдстаўнікоў бываў на нарадах аб опэрацiях на фронці.

ПЕЦЯРБУРГ. «День» піше, што англіцкае правіцельство высказало тымчасоваму ураду сваё нездаволеньне с прычыны таго, што дынастія скінута с трону, бо гэта не адпаведае жаданьням Англіі.

ШТОКГОЛЬМ. У Расеі ходзяць чуткі аб перэгаворах між англіцкім і расейскім правіцельствамі аб новай пазыцэ 4 мільярдоў пад залог розных зямель Расеі, ў тым ліку і занятых Нямеччынай. Паводлуг іншых чутак, справа ідзе аб Эстляндіі і Ліфляндіі. Кажуць і аб астравох на паўночным заходзі ад Кронштадту, наабапол Балтыцкаго порту і пры ўходзі ў Рыжскую затоку. Расейскі балтыцкі флот пойдзе пад англіцкую каманду.

ШТОКГОЛЬМ. «Рэч» даносіць аб благім стане здароўя цара. Баяцца, што ён захварэе на розум.

ПЕЦЯРБУРГ. Местовае упраўленьне трэбуе, каб неадкладаючы былі заведзены карты на хлеб.

Мясные крамы павінны былі пазачыняцца с прычыны недастачы мяса.

«Рэч» друкуе адозву Харкоўскаго соцыалістычнаго Камітэту, каторая жадае ўраз жэ зрабіць мір і канчаецца славамі:

„Ніхай жыве ґрамадзкая вайна!“

Грузінскі соцыалістычны камітэт у Тыфлісе пастанавіў паддзержываць правіцельство толькі с тэй умовай, што Грузія атрымае нацыональную аўтономію.

# З усяго сьвету.

**Гадаўшчына паўстаньня ў Ірляндіі.**

ЛОНДОН. Ў гадаўшчыну леташняго паўстаньня ў Ірляндіі на памятніку Нэльсона ў Дубліне быў зывешэн штандар с колерамі ірляндзкай рэспублікі. Яго пасьля зьнялі, парэзалі на кусочкі і раздалі народу. Ў паліцію кідалі каменьня.

У Корку на ратушу быў вывешэн рэспубліканскі штандар, і прамоўцы гаварылі мовы аб ірляндзкай рэспубліцэ.

Пры цяперашнім палажэньні, Ірляндія занімае ў вайне нэутральнае становішчэ, бо аб наборы рэкрутоў у Ірляндіі ня можэ быць ніякай гутаркі.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

**Нямецкіе апавешчэньня:**

**10.IV. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* „Баталія каля Аррас трывае далей. У крывавай бітве англічанам удалося ўварвацца на нашы пазыціі ў тым мейсцы, дзе зыходзяцца дарогі з Аррас. Аднак, прарвацъ фронту ім не ўдалося. Акавваючы цьвёрды апор перэважываючым сілам дзьве нашы дывізіі мелі цяжкіе страты. На палудзенным усходзі ад Іпра мы ўзялі 50 англічан, 7 кулемётаў і мінамётаў.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Францускае атака на паўночным усходзі ад Суассон зломлена нашым агнём. У заходняй Шампані мы ўзялі 36 французоў.

11.IV. Заходні тэатр.

Наабапол дарогі Аррас—Камбрэ ўчора па-абедзі, пасьля вельмі сільнаго агня, англічане атакавалі на шырокім фронці вялікімі сіламі. Яны адбіты, панёсшы вялікіе страты. Сягоньня раніцай там пачаліся новые бітвы.

Ад Вай'і да Рэймсу артылерыйская баталія с кожным днём усё вастрэйша.

**Усходні тэатр:**

На Аа, Дзьвіне, Стоходзі, Залатой Ліпе і Днястры шмат дзе значная артылерыйская работа расейцоў.

**Аустрыяцкіе апавешчэньня.**

ВЕНА. 9. IV. Усходні тэатр: Фронт Макензэна: На поўначы ад Фокшан мы ўзялі 46 палонных і 2 кулемёты.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. У ваколіцах Аррас англічане пачалі баталію, пусьціўшы ў ход гэтулькі артылерыі, што яна перавысіла ўсё ранейшае. Пярэдніе часьці акопаў англіцкім агнём былі зусім адрэзаны ад рэзэрвоў. С прычыны утраты вяршыні на пярэдняй лініі прышлося адступіць да 4 кіл. назад. Гарматы, якіе прышлося пакінуць ворагам, мы папсавалі і разарвалі.

БЭРЛІН. (В. Т. Б.). У сяродземным моры затоплены 11 параходаў і 13 парусных караблёў разам ёмкасьцю 38.244 тонн.

БЭРЛІН. За апошні час у Англіцкім канале, Атлянтыцкім акіане і Паўночным моры ізноў затоплены 16 параходаў, 7 парусных караблёў і 2 рыбалоўные, разам ёмкасьцю 53.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Наш мінаносец Г. 88 каля берагу Фляндры затоплен варожай падводнай лодкай.

БЭРЛІН. Вядомы нямецкі ваенны лятун, паручнк Франкль, 8 красавіка пагіб у бітве на паветры. Усяго ён збіў 17 самалётаў ворагоў.

БЭРЛІН. 9.IV. Учора нашы ворагі утрацілі 44 самалёты і 1 лятучы шар. Мы — 5 самалётаў і 2 лятучые шары.

ВАШЫНГТОН. Аб'яўлена мобілізація амэрыканскаго флоту.

Спадзяюцца, што Аўстрыя, Боўгарыя і Турэччына аб'явяць Амэрыцэ вайну.

ВАШЫНГТОН. Брайян, галава староннікоў міра, пасьля аб'яўленьня вайны паслаў Вільсону тэлеграму, кажучы:

„Павіннасць кожнаго грамадзяніна—ўзяць на сябе часць ваенных ціжароў і небаспекі. Падаюся за дабравольца, як просты салдат“.

ПІТСБУРГ. 200 немцоў хацелі ўзарваць жалезнада рожны тунэль у Брайтоне. Пасьля вострай бітвы іх арэштавалі.

ЛОНДОН. Паводлуг прыватных вестак, між Бразыліей і Нямеччынай разорваны дыплёматычные зносіны.

